**ЗА ШТО ТАК**



АБЫЙШЛІСЯ З ВАСІЛЬЕВЫМ?

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**ШТО ДОРАЦЬ**




ВЯДОМЫМ ЖАНЧЫНАМ

СТАР. 7

**БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **14.02.13-20.02.13 г.**

# “ГОЛУБЫЕ ЕЛИ” Ў КІРАЎНІЦТВЕ СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА




*Ў Еўропе карупцыі менш, чым у Расіі*

Сапраўдны парнік для карупцыі знайшлі праваахоўныя органы. І дзе – пад бокам у кіраўніка Беларусі.

## НЕ ВЯРШЫНЯ АЙСБЕРГУ

— Уму непостижимо, как это стало возможным в данной структуре, — заявіў **Аляксандр Лукашэнка** на нарадзе, прысвечанай Кіраўніцтву справамі прэзідэнта і падпарадкаваных яму арганізацый.

Пра асобныя падрабязнасці публіка даведалася трохі пазней. Новы кіраўнік справамі прэзідэнта **Віктар Шэйман** распавёў Аляксандру Лукашэнке пра крымінальныя справы супраць чыноўнікаў гэтай структуры, узбуджаныя па фактах раскрадання бюджэтных сродкаў. А потым Следчы камітэт удакладніў, што гаворка ідзе, у прыватнасці, пра завышэнне коштаў пры рэканструкцыі будынку Савету Рэспублікі на агульную суму каля 750 мільёнаў рублёў.

Гэта, канешне, нават не вяршыня айсбергу, а так, дробны яго кавалачак. Маштаб крытыкі, які ўжыў Лукашэнка, сведчыць, што праблемы ў Кіраўніцтве справамі маюць гіганцкі характар.

Грамадства ж пакуль забаўляюць байкамі пра чыноўніка сярэдняй рукі, які скраў пяць блакітных ялінаў коштам 1,4 мільёны рублёў. Адразу згадваецца старадаўні анекдот: “Штирлиц выглянул в окно и увидел: голубые ели. Присмотревшись, он обнаружил, что голубые не только ели, но и пили”.

У нашым выпадку некаторыя яшчэ і кралі. Для гэтага зусім не абавязкова быць блакітным.

> “На той момант яе ўжо выпусцілі з СІЗА. І за краты Жураўкова не вярнулася ні на дзень. А праз нейкі час стала вядома, што Лукашэнка памілаваў сваю сяброўку-падначаленую”.

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

# БЯЛЯЦКАГА НА ПАЎГОДА ПАЗБАВІЛІ СПАТКАННЯЎ

Алесь Бяляцкі пазбаўлены спатканняў, якія ён мусіў атрымаць у бліжэйшыя паўгода. Гэтую інфармацыю 13 лютага пацвердзіла адміністрацыя Бабруйскай калоніі № 2, дзе ўтрымліваецца палітвязень.

У 2012 годзе кіраўнік зачыненага ўладамі ПЦ «Вясна» быў пазбаўлены аднаго кароткатэрміновага (з трох магчымых) і адно доўгатэрміновага (з двух магчымых) спатканняў з роднымі. Пра тое, што ў новым годзе ён пазбаўлены аднаго доўгатэрміновага спаткання, Алесю Бяляцкаму стала вядома 5 лютага, а раней яму паведамілі пра пазбаўленне кароткатэрміновага спаткання.

Такім чынам, наступнае «планавае» спатканне чакае Алеся Бяляцкага толькі ў жніўні.

Праваабаронцы разглядаюць узмацненне ціску на Алеся Бяляцкага, як і іншых палітвязняў са спробай уладаў дамагчыся ад іх прашэнняў пра памілаванне, што выклікана аднаўленнем перамоўных працэсаў паміж беларускімі ўладамі і ЕС.

**SPRING96.ORG**

# ЦІ ВЯРНУЦЬ ЧЫНОЎНІКІ НАХАПАНАЕ?

Заведзеныя тры крымінальныя справы аб дачыненні шэрагу службовых асоб ўпраўлення Кіраўніцтва справаў прэзідэнта. Чым могуць закончыцца гэтыя справы, разбіралася “Тут і цяпер”




**АЛЯКСАНДР ПЛАСКАВІЦКІ, БЫЛЫ ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНЫ СУПРАЦОЎНІК ПРЭЗІДЭНЦКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ:**

### “ЗАПАЛОХАНЫ ЧАЛАВЕК БОЛЬШ ПАСЛУХМЯНЫ”.

– Падобнае было і ў 1993-м годзе, калі ён рабіў справаздачны даклад сваёй камісіі аб даследаванні камерцыйнай дзейнасці дзяржаўных структур. Зараз яна называецца як “камісія аб карупцыі”.

І тады ён таксама пагражаў. Такім чынам, ён пагражае дваццаць гадоў. І гэта робіцца, напэўна, для таго, каб нейкім чынам стымуляваць палахлівасць. Запалоханы чалавек больш паслухмяны. Але адрасат апошняга паслання ў першую чаргу – народ. Бабулькі, дзядулькі ды іншыя. Калі нехта кажа так, як і яны, дык ён – іхні. Але, па-першае, у абсалютнай большасці чынавенства няма чаго вяртаць. А па-другое, яны бяруць прыклад са свайго правадыра. Але гэта невялікая меншасць апарата. Таму, што большая яго частка апарата не мае і зарплаты вялікай, не мае і ніякай магчымасці нешта “падчапіць”. Нават просты рабочы на заводзе можа скрасці больш, чым звычайны чыноўнік.

**МІХАІЛ ЧЫГІР, БЫЛЫ ПРЭМ’ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ:**

### “ЯК БЫЛО, ТАК І БУДЗЕ”.

– Не ведаю, што Лукашэнка меў на ўвазе. Ну, ёсць у чыноўніка дом, машына. Гэта незаконна? Няўпэўнены. Думаю, як было, так усё і будзе. Калі нехта нешта скраў, то, вядома, пойдзе ў турму.

**МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ, БЫЛЫ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ БЕЛАРУСІ:**

### “НУ, НЯМА Ж ТАКІХ ДУРНЯЎ У НАС”.

– Як былы юрыст, і як былы супрацоўнік міліцыі, я хачу адзначыць, што гэта проста рыторыка. Яна ні да чаго не прывядзе. Таму, што, зразумейце, калі чалавека толькі падазраюць, што ён крадзе, але яшчэ няма ніякіх доказаў, ці яны проста не сабраныя. І пры гэтым ён павінен вяртаць назад “скрадзенае”? Гэта значыць, ён прызнае сваю віну.

Фактычна такі чыноўнік сам павінен заявіць, што хоча сесці ў турму. І хоча заплаціць у два-тры больш, чым ён скраў на самой справе. Ну, няма ж такіх дурняў у нас. Гэта такая рыторыка. Не зусім удалая і не зусім разумная. Вось, як для дзяцей. А яшчэ ж невядома, хто скраў, хто не скраў. Гэта ж агульнае абвінавачванне. Калі крыху назіраць за яго выступамі, то ён у іх, на мой погляд, кіруецца эмоцыямі. Кіраўнік дзяржавы, не стрымліваючы сябе, выказвае іх на публіку і на ўсё наша грамадства. Я не думаю, што гэтым словам трэба надаваць нейкае вялікае значэнне.

**ІРЫНА, ХАТНЯЯ ГАСПАДЫНЯ:**

### “УСЁ БЫ АДДАЛА, КАБ ТАКОЕ ПАБАЧЫЦЬ”.

– О, я ўяўляю, як з Драздоў, з гэтай “сціплай” вёсачкі, цягнуцца падводы з нашымі няшчаснымі чыноўнікамі. Як яны пакідаюць свае, нажытыя няправеднай працай, катэджы. Кідаюць італьянскую мэблю, басейны, раскошныя аўтамабілі. Мужчыны доўгаю чаргою ідуць здавацца ў Следчы камітэт. А жонкі, уціраючы слёзы, суцяшаюць дзетак. Не будзе, маўляў, больш Мальдываў і Канараў. Паедзеце ў “піянерскі” лагер “Чырвоны падшыпнік”. А са Следчага камітэта дзесяткі аўтазакаў развозяць пакутнікаў па “валадарках” і “амерыканках”. Усё бы аддала, каб такое ўбачыць.

**ГАЛІНА СЕЛІВОНЧЫК, УРАЧ:**

### “САПРАЎДНЫХ БУЙНЫХ МАЛА”.

– Вядома, Лукашэнка красуецца перад электаратам. Корчыць з сябе грознага цара. І, вядома, не разлічвае, што нехта ўспрыме ягоныя словы ўсур’ёз. Але, калі б знайшоўся сярод ягонай наменклатуры смяльчак, дык у яго была б вялікая будучыня. Не, не трэба прызнаваць ніякай віны за “нахапанае”, а публічна і гучна выйсці з гульні. Кінуць у твар “хазяіну” ягоныя даброты. Гэта быў бы моцны ход. Можна было б гаварыць пра новага лідэра. Але ж сапраўдных буйных мала.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДА ВЕДАМА**

### “НЕ ДАЙ БОГ ВЫ ПАКЛАЛІ Ў СВАЮ КІШЭНЮ”

**Президент Беларуси дал чиновникам, которые «имеют свои угодья» и «обросли родственными связями», небольшой промежуток времени, чтобы компенсировать все, что они положили в собственный карман, пока за ними не пришли:** *«Заканчивая разговор о фактах возможной коррупции, имейте в виду, что я зря ничего не говорю. Поэтому у вас еще есть небольшой промежуток времени, пока к вам не пришли, немедленно компенсировать все, что не дай Бог вы случайно положили в собственный карман или отдали своим родственникам. Я вас категорически предупреждаю! Лучше в два раза больше заплатите, свобода дороже».*

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# “ГОЛУБЫЕ ЕЛИ” Ў КІРАЎНІЦТВЕ СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА

## СКАНДАЛЬНАЕ КІРАЎНІЦТВА

Насамрэч, здзіўленне Лукашэнкі карупцыйнымі норавамі ў прэзідэнцкім Кіраўніцтве справамі выглядае штучным. Гэтая структура літаральна прыцягвае скандалы з дня свайго заснавання.

Каб пераказаць толькі афіцыйна пацверджаны кампрамат на Кіраўніцтве справамі, не хопіць і ўсёй плошчы нашага выдання. Таму абмяжуемся найбольш скандальнымі гісторыямі.

Першы кіраўнік справамі прэзідэнта Іван Ціцянкоў, даўні паплечнік Аляксандра Лукашэнкі, сышоўшы з пасады, нейкі час дзеля бяспекі не з’яўляўся ў Беларусі. На тое была істотная прычына. Сам Лукашэнка публічна звінаваціў Ціцянкова ў крадзяжы 40 мільёнаў даляраў.

Але ж крымінальная справа з гэтай нагоды ўзбуджаная не была, і ніхто не патрабаваў ад Расіі выдаць злодзея ў асабліва буйных памерах. А праз пэўны час хмары над Ціцянковым наогул рассмакталіся, і ён ужо спакойна наведваў Беларусь.

Потым была Галіна Жураўкова, якая з пасады кіраўніка справамі трапіла проста ў следчы ізалятар. Ёй таксама інкрымінавалі шкоду на мільёны даляраў. Вярхоўны суд вынес вердыкт: 4 гады пазбаўлення волі. Аднак на працэсе Жураўкова не прысутнічала. На той момант яе ўжо выпусцілі з СІЗА. І за краты Жураўкова не вярнулася ні на дзень. А праз нейкі час стала вядома, што Лукашэнка памілаваў сваю сяброўку-падначаленую.

Таму карупцыя ў Кіраўніцтве справамі прэзідэнта мае даўнія традыцыі, якія ўкараніліся дзякуючы беспакаранасці высокапастаўленых чыноўнікаў. Да гэтага, як бачым, прыклаў руку і сам Лукашэнка. Так што, цяпер не варта рабіць выгляд, што махлярства падначаленых для яго навіна.

## ГЭТА ТЫЧЫЦЦА ЎСЁЙ КРАІНЫ

Рэцэпт ад гэтай хваробы агучыў сам Лукашэнка: “Нужны молодые перспективные руководители, способные оживить экономику, финансовую политику, инвестиционную деятельность”. Але гэта тычыцца не толькі Кіраўніцтва справамі, а ўсёй краіны, уключна з прэзідэнцкай пасадай. Бо навесці парадак у асобнай структуры не атрымаецца хаця б таму, што ўсе аўтарытарныя рэжымы адначасова з’яўляюцца найбольш карумпаванымі ў свеце – найперш, дзякуючы непразрыстасці. І ад гэтага не ратуюць нават расстрэлы чыноўнікаў, як гэта практыкуецца ў Кітаі.

Толькі грамадскі кантроль здольны абмежаваць карупцыю сярод чынавенства. Але гэта тое, чаго сам Лукашэнка ўсімі сродкамі пазбягае.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ФУТБАЛІСТЫ, НЕ ЗАБЫВАЙЦЕСЯ НА МОВУ СВАЮ

Актывісты грамадзянскай ініцыятывы “Справаводства па-беларуску!” звярнуліся да футбалістаў Вышэйшай лігі з прапановай больш шырока ўжываць беларускую мову падчас арганізацыі, правядзення і асвятлення сваіх матчаў.

Каардынатар ініцыятывы Ігар Случак паведаміў, што прапановы накіраваны дванаццаці клубам — удзельнікам 23 чэмпіянату Беларусі па футболе.

Случак: “Гэта наш другі зварот да футбалістаў. Летась мы таксама звярталіся да іх з гэткай жа прапановай. Водгукі атрымалі станоўчыя. Аднак практычная рэалізацыя прапаноў была адкладзена, паколькі сезон гульняў пачаўся і мяняць нешта ў іх арганізацыі было дужа складана. Прынамсі, так нам тлумачылі ў адказах. Таму сёлета мы вырашылі нагадаць нашы прапановы па “беларусізацыі” нацыянальнага футбольнага першынства амаль за два месяцы да першага тура гульняў, які пачынаецца ў самым канцы сакавіка”.

> Ініцыятары “Справаводства па-беларуску!” лічаць, што футбол — гэта той від спорту, які вабіць у Беларусі найбольшую колькасць заўзятараў.



*Прыйдзе час і беларускамоўнага футбола*

Футбалістам прапанавана пісаць па-беларуску прозвішчы на клубных майках, каментаваць на роднай мове гульні на ўласных стадыёнах, зрабіць беларускамоўную версію сайтаў, праводзіць прэс-канферэнцыі па-беларуску, а таксама больш шырока ўжываць беларускую мову па-за гульнёй і ў стасунках з прэсай.

Ініцыятары “Справаводства па-беларуску!” лічаць, што футбол — гэта той від спорту, які вабіць у Беларусі найбольшую колькасць заўзятараў. У гульцоў ёсць магчымасць уплываць на пашырэнне беларускай мовы ўнутры краіны. Апрача таго, футбол аказвае прамы ўплыў на фарміраванне патрыятычных пачуццяў, любові да Радзімы. Адначасова павысіцца і цікавасць да чэмпіянату, а гэта ўжо наўпроставая выгада футбольным клубам — больш будзе прададзеных квіткоў і рэкламы.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**

# ЗА ШТО ТАК ЖОРСТКА АБЫЙШЛІСЯ З ІГАРАМ ВАСІЛЬЕВЫМ?

**Днямі Мінскі абласны суд вынес прысуд былому намесніку старшыні Мінгарвыканкама Ігару Васільеву. Яго прыгаварылі да 14 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.**

*І гэта пры тым, што чыноўнік не паспеў нават дакрануцца да партфеля, у якім ляжала чвэрць мільёна долараў.*

*Без сумневу, справа Васільева стала не толькі адной з самых рэзанансных, але і адной з самых незразумелых за апошнія гады.*

*Спачатку яе разглядалі на адкрытым судовым пасяджэнні, а потым, калі гаворка зайшла пра абнародаванне матэрыялаў аператыўнага назірання КДБ за Васільевым, пабочных асоб з залы папрасілі. І далей суд праходзіў за зачыненымі дзвярыма. Грамадскасці нават не далі пачуць апошняе слова былога намесніка Мікалая Ладуцькі…*

*Што стаіць за гэтым прысудам? І ці ёсць у Васільева шанц на прэзідэнцкае памілаванне?*

## ПАКАЗАЛЬНЫ ВЫРАК

Праваабаронца **Валянцін Стэфановіч** называе прысуд Васільеву жорсткім**.**

— 14 гадоў — гэта, канечне, вельмі суровы вырак, можна сказаць, паказальны, але я не магу падрабязна каментаваць гэтую справу, бо ведаю толькі тое, што пісалі журналісты, якія, пакуль было магчыма, асвятлялі ўвесь працэс, — гаворыць Валянцін. — Але тое, што я прачытаў, на жаль, кладзецца ў агульную канву карупцыйных спраў з перадачай хабару пад кантролем пэўных органаў. І мы ўжо чулі не адну гісторыю такога кшталту. Увогуле, я вызначыў бы ў нас тры кампаніі па барацьбе з некаторымі відамі злачынстваў, якія суправаджаюцца, скажам так, некаторымі цікавымі момантамі. Я маю на ўвазе кампаніі супраць карупцыі, супраць наркотыкаў і супраць гандлю людзьмі. Менавіта па гэтых справах мы атрымліваем больш за ўсё сігналаў.

Хіба не было б больш карысці, калі б такія працэсы над чыноўнікамі былі цалкам адкрытыя? Калі яны ўзорна-паказальныя, рэзанансныя, няхай траслююцца хоць у прамым эфіры. Але тады ні ў каго не ўзнікала б сумненняў, што ўсё зроблена менавіта па законе, што гэты суровы прысуд — не вынік кулуарных разборак, не чыясьці замова.

— *У нас ёсць такая прымаўка: на судзе ўсё бачна,* — працягвае Валянцін Стэфановіч. — *Пры нейкай незразумелай сітуацыі пасля адкрытага судовага працэсу ўсё звычайна становіцца на свае месцы. І падчас суда, здараецца, выплываюць нейкія цікавыя акалічнасці: як праводзіліся тыя ж аператыўныя эксперыменты, назіранне і гэтак далей. З іншага боку, гэта не ў інтарэсах некаторых чыноўнікаў, бо можа быць раскрыта інфармацыя, у абнародаванні якой яны не зацікаўлены.*



*А яшчэ зусім нядаўна, здавалася, герб Мінску дапамагае Васільеву*

За апошнія часы асудзілі не так ужо і мала чыноўнікаў. Але многія судовыя працэсы праходзілі за зачыненымі дзвярыма. Напрыклад, справа аб нападзе на былога старшыню КДК **Зянона Ломаця**, калі асудзілі супрацоўнікаў спецслужбаў.

Справу таго ж былога пракурора Мінскай вобласці **Міхаіла Снегіра** таксама разглядалі вузкім колам, як і справу былога следчага Генпракуратуры **Святланы Байковай.**

Сёння адбываецца закрыты суд над былым намеснікам міністра ўнутраных спраў **Яўгенам Полуднем.**

Можна назваць яшчэ шэраг гучных карупцыйных спраў, якія слухаліся ў закрытым рэжыме. І таксама шмат дэталяў застаюцца за кадрам, іншымі словамі, іх проста хаваюць ад грамадскасці.

— *Сістэма, з аднаго боку, хоча паказаць, як яна змагаецца з карупцыянерамі, але з іншага — не хоча публічнасці ў гэтых справах,* — робіць выснову Стэфановіч. — *Да таго ж у гучных справах заўсёды ёсць небяспека празмернасці, калі суд можа заплюшчваць вочы на некаторыя аргументы абароны, таму што ў дадзеным выпадку ёсць інтарэс дзяржавы. І ў гэтым сэнсе такія працэсы падобныя на палітычныя, бо ў тых, каго судзяць, проста няма ніякага шанцу, паколькі існуе замова зверху.*

## ШТО ЗАСТАЛОСЯ ПА-ЗА КАДРАМ

Былы кіраўнік канцэрна «Амкадор» аўтарытэтны эканаміст **Васіль Шлындзікаў** згодны з тым, што чыноўнікаў, якія бяруць хабар, трэба караць. І моцна. Але пры гэтым Васіль Міхайлавіч перакананы: пакаранне не

**ДАРЭЧЫ**

### ШТО НАПІСАНА Ў ЗАКОНЕ

**Ігару Васільеву, які займаў адказную пасаду, інкрымінавалі атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры. У такіх выпадках закон прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін ад 5 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады.**

**Не выключана, што Ігар Васільеў, каб апынуцца на волі, будзе прасіць памілавання ў кіраўніка дзяржавы. Памілуе Лукашэнка былога чыноўніка ці не, пакажа час.**

павінна знішчаць чалавека і яго блізкіх, не павінна рабіць іх жабракамі. Яно павінна быць не толькі суразмерным учыненаму, але і гуманным.

— *Ведаеце, мне шкада Васільева,* — гаворыць Шлындзікаў. — *Я не ведаю, што там было: хабар або звычайная падстава... Для мяне ў гэтай справе шмат няяснага. Васільеў у мінулым — дырэктар прадпрыемства, і мне цяжка ўявіць, каб ён вось так спакойна ў кагосьці вымагаў хабар. Гэта ўжо трэба быць надта нахабным, накшталт некаторых маскоўскіх чыноўнікаў, для якіх мільён долараў не грошы. А я так разумею, што для Васільева чвэрць мільёна — гэта велізарная сума. І вось так проста камусьці штосьці прапаноўваць, ды яшчэ ў сваім кабінеце, які, напэўна, праслухваецца, ды тым больш у Мінгарвыканкаме! Тут не ведаеш, ці праслухваюцца прыватная фірма і кабінет, а ўжо гарвыканкам... Ён што, не разумеў гэтага? Думаю, разумеў. Мне здаецца, мы проста шмат чаго не ведаем, многае засталося за кадрам у гэтай справе.*

*І, вядома, 14 гадоў — гэта проста знішчэнне чалавека. Хай бы выплачваў штрафы, раўназначныя суме таго хабару. А 14 гадоў — гэта вельмі шмат... Такі прысуд знішчае не толькі Васільева, але і яго сям'ю. Ламаюцца лёсы… Вы ўяўляеце, што значыць пазбавіць людзей маёмасці?! Гэта зрабіць жабракамі. Гэта ўсё наша сістэма бальшавізму. І якіх мэт за кошт гэтага спрабуюць дасягнуць — незразумела.*

*Я лічу, што за хабар трэба караць, і строга. Але зрабіце так, каб усё было празрыста і зразумела. І потым, яшчэ раз паўтаруся, не трэба гэтых 14 гадоў. Давайце нейкія штрафы, і хай чалавек сам вырашае, як сродкі вяртаць: прадаць пярсцёнкі жонкі, узяць пазыку ў сяброў або адседзець тэрмін у турме. Мне здаецца, так было б гуманна. І хай бы працаваў чалавек на карысць радзімы…*

*Я лічу, нельга так адносіцца да людзей, як гэта адбываецца ў нашай краіне. Таму мне шкада гэтага чалавека і больш нічога...*

**МАРЫНА МІТ**

# “ДАЖЫНКІ” ПРЫЗЯМЛІЛІСЯ Ў ЖЛОБІНЕ




## Рагачоў, Гомель, Жлобін – такі маршрут сёлетніх рэспубліканскіх “Дажынак”.

Яны, нібы камуністычны прывід, блукалі па Гомельшчыне і, нарэшце, знайшлі прыстанішча. Кіраўнік дзяржавы падпісаў распараджэнне, паводле якога Жлобіну нададзены статус сталіцы “Дажынак-2013”.

Права на сялянскі фестываль-кірмаш у Рагачова аспрэчваў Гомель у асобе старшыні аблвыканкама Уладзіміра Дворніка. Апошні пераканаў Лукашэнку ў тым, што за кошт сродкаў мясцовага бюджэту немагчыма за кароткі тэрмін прывесці абласны цэнтр у належны парадак так, каб ён адпавядаў сучасным патрабаванням. І згода была атрымана.

Аднак у Гомелі мінулым летам ўсчаўся карупцыйны скандал. За краты патрапілі кіраўнікі упраўлення капітальнага будаўніцтва, а за імі і старшыня гарвыканкама Віктар Піліпец. Не стала каму арганізоўваць падрыхтоўку “Дажынак”. Пазбавіўся пасады і галоўны абласны аграрнік – першы намеснік старшыні аблвыканкама ў пытаннях сельскай гаспадаркі Аляксандр Баранаў.

У няроўную барацьбу за “Дажынкі” ўцягнуліся грамадскія актывісты Рагачова. Сталі нават збіраць подпісы гараджанаў за вяртанне ў горад сельскагаспадарчага фэсту, наіўна мяркуючы, што ўлады прыслухаюцца да голасу народа і пабудуюць у горадзе да восеньскага свята і дзіцячую бальніцу, і палац шлюбаў, і лядовую арэну.

Але ўжо у лістападзе на авансцэну выйшаў Жлобін. Тут нават правялі нараду, склалі план падрыхтоўкі да “Дажынак” і накіравалі “наверх” на ўзгадненне. Пра Жлобін як месца прызямлення “Дажынак” згадвалася на прэс-канферэнцыі кіраўніка дзяржавы ў студзені. І вось, нарэшце, канчатковае распараджэнне: усё-ткі Жлобін.

Адзін з кіраўнікоў раёна так адрэагаваў на нечакана выпаўшую долю: “Гомель, можа, і пакрыўдзіцца – затое Жлобін расквітнее”.

Тым часам жлобінскі палітык і грамадзскі актывіст, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Марат Афанасьеў лічыць, што трэці па ліку перанос “Дажынак” звязаны хутчэй за ўсё з фінансаваннем вясковага кірмашу. Дзе тых грошай набрацца, калі і мільярдныя крэдыты трэба аддаваць, і на “растваральнікі” Расія лапу наклала, і даходы ад калійнага экспарту сёлета ўжо не тыя. Таму і вырашылі зрабіць “Дажынкі” ў Жлобіне, каб павесіць частку выдаткаў найперш на Беларускі металургічны завод. Фэст жа ў нейкім сэнсе рытуальны, знакавы для рэжыму – яго нельга прапусціць. Ім нават захварэлі некаторыя механізатары з няўстойлівай псіхікай – сталі наўмысна псаваць камбайны канкурэнтаў, каб самім выйсці ў перадавікі і патрапіць на “Дажынкі”. Прынамсі, такі ўчынак стаўся вядомым грамадскасці ў Дзятлаўскім раёне, дзе механізатар-шкоднік таемна насыпаў у гарлавіны маслаправодаў двух камбайнаў “Джон Дзір” дробную металічную стружку і абразіўны пыл ад наждака. І камбайны спыніліся. Шкода, нанесеная гаспадарцы “Граніт-Агра”, перавысіла 180 мільёнаў рублёў.

Да “Дажынак” у Жлобіне, з іншага боку, ёсць пэўны “набор аб'ектаў” - лядовы палац, водна-спартыўны комплекс, сёе-тое іншае. Падшаманіць крыху горад – і гуляй, вёска. А будзе доўга ці коратка ляжаць тая ж плітка на ходніках, змые ці не першы дождж фарбу на сценах дамоў і агароджах – гэта ўжо будзе іншая справа, якой ужо давядзецца займацца пасля “Дажынак”.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**

# АЛЯКСЕЙ СТУК ПРА ВАРЛАМАВА, ХВАРОБЫ Ў ТУРМАХ, КАНФІСКАЦЫЮ АЎТО І ЗЛАЧЫНСТВЫ

Намеснік Генпракурора распавёў, ці могуць зняволеныя захварэць у турме, у каго з п'яных не забяруць машыну і якіх злачынстваў у Беларусі стала больш, распавядае Еўрадыё..




*Не забывайся ёю карыстацца!*

Пасля шасці пасяджэнняў суд нарэшце заклапаціўся станам здароўя Сашы Варламава. Вядомага мадэльера накіравалі на медыцынскае абследаванне. У залежнасці ад вердыкту дактароў, будзе вырашацца пытанне аб працягу працэсу, распавёў падчас прэс-канферэнцыі намеснік Генпракурора **Аляксей Стук**.

**Аляксей Стук:** *"Судом праяўленая заклапочанасць здароўем гэтага абвінавачанага. І якраз на заўтра, 15 лютага, у судовым паседжанні зроблены перапынак. І ён будзе праходзіць МРТ, і ў залежнасці ад гэтага будзе вырашацца пытанне, з улікам стану яго здароўя, аб працягу працэсу».*

Вось толькі інвалідам ІІ групы мадэльер стаў менавіта падчас знаходжання ў СІЗА. І менавіта ў калоніі ўзніклі праблемы са здароўем у **Статкевіча, Дашкевіча, Саннікава** і гэтак далей, звяртае ўвагу прадстаўніка Генпракуратуры карэспандэнт Еўрарадыё. Але знаходжанне за кратамі тут ні пры чым, упэўнівае Стук.

**Аляксей Стук:** *"Умовы ўтрымання ў іх такія ж, як і ў астатніх! І наколькі мы правадзілі праверкі, знаходжанне ў месцах пазбаўлення свабоды, толькі знаходжанне ў гэтых месцах, не было прычынай іх захворванняў. Магчыма, гэта абвастрэнне захворвання, што яны мелі раней".*

І не пагаджаецца з меркаваннем, што "абвастрэнне старога захворвання" ў пералічаных вязняў магло ўзнікнуць найперш таму, што яны — палітычныя. І наадварот: наракае на паводзіны менавіта такіх, палітычных, асуджаных.

**Аляксей Стук:** *"Статкевіч дапускаў шэраг парушэнняў, якія не абскарджаныя, і ў сувязі з гэтым ён пераведзены ў турму № 4 у Магілёў. Што тычыцца Бяляцкага, то ён знаходзіцца ў другой калоніі ў Бабруйску. У яго таксама шэраг парушэнняў, і ў нас таксама няма звестак аб іх абскарджанні".*

> Праект закона аб канфіскацыі машын у п'яных кіроўцаў цяпер знаходзіцца «на завяршаючай стадыі яго распрацоўкі». Аднак адзначыў, што ўзнікла «калізія»: што рабіць з машынамі, якія належаць юрыдычным асобам

Такім чынам, даводзіць прадстаўнік Генпракуратуры, яны знаходзяцца "ў рэжыме ўтрымання, які адпавядае іх катэгорыі злачынства і іх асобе".

Тым больш, сцвярджае **Аляксей Стук**, няма ніякіх пацвярджэнняў словам асобных зняволеных і праваабаронцаў аб катаваннях ці гвалце ў СІЗА, турмах, калоніях і міліцэйскіх пастарунках.

**Аляксей Стук:** *"Усе заявы, якія былі пададзеныя ў органы пракуратуры, былі разгледжаныя. Фактаў неправамернага ўжывання насілля намі не выяўлена. Але цалкам можна меркаваць, што людзі маглі самі правакаваць, я маю на ўвазе заяўнікі, нейкі гвалт. Маглі быць нейкія неадэкватныя паводзіны. Я маю на ўвазе такія паводзіны, калі яны не выконвалі нейкія законныя распараджэнні прадстаўнікоў адміністрацыі..."*

І, нягледзячы на прызнанне, што пэўныя недахопы ў калоніях правяраючыя з пракуратуры час ад часу знаходзяць, упэўнівае: усе гэтыя хібы "знаходзяцца ў межах Крымінальна-выканаўчага кодэкса".

## АЎТАМАБІЛІ Ў ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБАЎ ЗАБІРАЦЬ НЕ БУДУЦЬ?

Таксама намеснік генеральнага пракурора паведаміў, што праект закона аб канфіскацыі машын у п'яных кіроўцаў цяпер знаходзіцца «на завяршаючай стадыі яго распрацоўкі». Аднак адзначыў, што ўзнікла «калізія»: што рабіць з машынамі, якія належаць юрыдычным асобам (напрыклад, таму ж райвыканкаму), — канфіскоўваць ці не?

**Аляксей Стук:** *«Мы прытрымліваемся думкі аб неабходнасці канфіскацыі аўтамабіля, незалежна ад права ўласнасці. Цяпер ідзе гаворка, магчыма, пра нейкі перагляд відаў транспарту, якія знаходзяцца ва ўласнасці юрыдычных асобаў. Засталося гэта дапрацаваць і — прадастаўляем кіраўніку дзяржавы».*

Нагадаем, законапраект падрыхтавалі Генпракуратура і Міністэрства юстыцыі. У ім прапануецца канфіскоўваць аўтамабілі ў нецвярозых кіроўцаў толькі ў межах крымінальнай адказнасці. Раней зрабіць больш жорсткім пакаранне для нецвярозых кіроўцаў неаднаразова прапаноўваў Аляксандр Лукашэнка.

## БЕЛАРУСЫ СТАЛІ МЕНШ ЗАБІВАЦЬ І КРАСЦІ, АЛЕ БОЛЬШ ГВАЛТУЮЦЬ

Колькасць згвалтаванняў і "дзеянняў сексуальнага характару" летась павялічылася на 21%. Такія лічбы агучыў **Аляксей Стук**:

*"Колькасць цяжкіх злачынстваў зменшылася на 28%, колькасць забойстваў скарацілася з 404 да 385, колькасць цяжкіх цялесных пашкоджанняў зменшылася на 13%, колькасць разбояў зменшылася, рабункаў, крадзяжоў. Але ўзрасла колькасць згвалтаванняў і "дзеянняў сексуальнага характару" — на 21%".*

Увогуле ж, сцвярджае прадстаўнік Генпракуратуры, у параўнанні з 2011 годам летась у краіне было зарэгістравана на 30 тысяч злачынстваў менш — з крыху больш за 132 тысячы іх колькасць знізілася да 102 тысяч.

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# СВЯТЫ ВАЛЯНЦІН: ШТО ДАРАЦЬ ВЯДОМЫМ ЖАНЧЫНАМ

**Усе мы любім дарыць ці атрымліваць падарункі, а часам – і тое, і другое разам. Нейкія падарункі расчароўваюць, і даводзіцца ставіць кубак для кавы да яшчэ такіх жа пяці. А іншыя запамінаюцца надоўга.**

Дзень святога Валянціна — яшчэ адна нагода ўзгадаць, што ж цікавага і найбольш адметнага дарылі каханым іх мужчыны. Часам падарункі вельмі нечаканыя, часам арыгінальныя, а часам… яны вырастаюць.

Нагоду для таго, каб падумаць пра падарунак, дала адна гісторыя, пачутая (дакладней, падслуханая) напярэдадні Дня святога Валянціна. Адна жанчына распавядала пра тое, як муж вырашыў зрабіць ёй арыгінальны падарунак на дзень народзінаў. Вырашыў і зрабіў — падарыў палёт на паветраным шары. Гэта быў вялікі сюрпрыз! Аднак яшчэ большым сюрпрызам стала тое, што гэтага палёту давялося чакаць два месяцы. Ні муж, ні яго жонка-імянінніца не ведалі, што такія палёты адбываюцца толькі ў адпаведных умовах і пры вельмі спрыяльных абставінах: пры пэўным напрамку і сіле ветру, ясным надвор'і і гэтак далей. Такім чынам, "папярэдні падарунак" жанчына атрымала ў чэрвені, а сапраўдны — непасрэдна сам палёт — толькі напрыканцы жніўня.

> Найбольш цікава тое, што ўсе жанчыны, з якімі карэспандэнт "Тут і цяпер" размаўляў на тэмы падарункаў, заявілі, што самі сваім любімым людзям нейкіх адметных рэчаў не дарылі.




## ПАДАРУНАК, ЯКІ "ВЫРАС"

Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў **Жанна Літвіна** сказала, што самы запамінальны падарунак ёй зрабілі калегі.

*— Неўзабаве пасля стварэння Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) калегі падаравалі мне маленькую жабку. Вядома ж, не жывую, а сувенірную: БАЖ, ЖАБ, жабка — усё зразумела. Але пасля гэтага падарунка мне ўсе пачалі дарыць цацачных жабак: ад самых простых да такіх, якіх можна лічыць мастацкімі творамі. Мне прывозяць жабак з розных куткоў свету,* — кажа Літвіна.

Па словах Жанны Мікалаеўны, з самай першай жабкай, якую яна атрымала больш за 10 гадоў назад, звязана "цэлая эпоха БАЖ". Яна збірае гэтыя цацкі, як сама жартуе, "ад бязвыхаднасці", бо іх усё дораць і дораць. Зараз у калекцыі Літвінай сабрана больш за сто самых розных жабак.

Пагадзіцеся, пра такі падарунак, які працягваецца ў часе і расце ў памерах, наўрад ці забудзеш.

## НІ ЗА ШТО, ПРОСТА ТАК

Праваабаронца **Таццяна Рэвяка** не можа забыцца на тое, як ёй зрабілі "прастатакны" падарунак.

*— Гэта здарылася ў 2005 годзе. Дэлегацыя беларускіх праваабаронцаў тады ляцела назіральнікамі на выбары ў Кыргызстан. Ноч мы ехалі ў поездзе да Масквы, з Масквы — у аэрапорт Шарамецьева, а рэйсы ў Кыргызстан звычай начныя. Карацей, усе былі вельмі стомленыя. Чакаем свайго рэйсу. І вось да мяне падыходзіць мужчына і кажа: "Выбачайце, калі ласка, але я хачу зрабіць вам падарунак. Проста так", — і дорыць мне бутэлечку парфуму "Шанэль Шанс". Пакуль я думала, што гэта такое, ён сышоў.*

*Гэты чалавек нават не спрабаваў заляцацца да мяне, не пытаўся, як мяне клічуць, не дамагаўся майго нумару тэлефона і свой не пакінуў. Проста падышоў, падараваў і пайшоў. Больш я яго ніколі не бачыла. Шчыра кажучы, я была ўражана. І нават сёння памятаю гэты момант…*

Можа, спадарыня Рэвяка прапусціла на сваім шляху добрага джына альбо прынца на белым кані?

## У ЯГО ПРЫЁМНІК "ГРУНДЗІГ"…

Бадай, адна з самых маладых жанчын у палітыцы і самая пры гэтым вядомая — **Таццяна Караткевіч**, адна з грамадскіх актывістак кампаніі "Гавары праўду!". Неяк раптоўна яна з'явілася ў названай кампаніі, адразу заняўшыся "Грамадзянскай дамовай" і кампаніяй "Будкантроль". Яе часцяком пабачыш там, дзе людзі незадаволены планамі забудовы тэрыторыі.

*— Для мяне самы запамінальны падарунак зрабіў мой сябра, якога, на вялікі жаль, цяпер ужо няма ў жывых,* — кажа Караткевіч. — *Аднойчы ён прынёс мне і падараваў дыктафон. Але гэта быў не звычайны дыктафон, а рарытэтная мадэль фірмы "Грундзіг", вялікі такі, стужкавы, вытворчасці яшчэ мінулага стагоддзя. Мне гэта падалося вельмі каштоўным падарункам. Ва ўсіх розныя лёсы, рознае каханне, розныя гісторыі. І гэты дыктафон, стаўшы маёй гісторыяй, запісваў і захоўваў гісторыі іншых людзей. Гэта такая спадкаемнасць…*

Таццяна, аказваецца, вельмі рамантычны і чуллівы чалавек…

## А МУЖЧЫНЫ ПЕРАБ'ЮЦЦА

Найбольш цікава тое, што ўсе жанчыны, з якімі карэспандэнт **"Тут і цяпер"** размаўляў на тэмы падарункаў, заявілі, што самі сваім любімым людзям нейкіх адметных рэчаў не дарылі. Ніводная не магла ўзгадаць якую-небудзь гісторыю, звязаную з падораным каму-небудзь падарункам. Любую гісторыю: смешную, сумную, павучальную, тую, якая запомнілася б…

Пэўна, звязана гэта з тым, што жанчыны — вельмі прагматычны народ. Яны альбо спачатку пытаюцца, што карыснага падараваць, альбо выбіраюць падарунак на свой густ. Карацей, не дачакаешся ад іх гісторый, звязаных з падарункамі, якія дарылі менавіта яны. Таму не дзіўна, што ў мужчын збіраецца па пяць гальштукаў, восем дэзадарантаў і дванаццаць бутэлек пены для галення…

Але ж галоўнае — не падарунак, а ўвага. Ды і ўсё роўна мужчыны любяць жанчын не за падарункі, а за тое, што яны, жанчыны, ёсць.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ВАЛАНЦЁР: "ХАРЧАВАЎСЯ ВЕТЭРАН СУХАРАМІ З КІПЕНЕМ"

Гомельская абласная міліцыя адрэагавала на канфліктную сітуацыю, якая нядаўна ўзнікла паміж валанцёрамі з Мазыра і ахоўнікамі зоны радыяцыйнага забруджання Нараўлянскага раёна.

У паведамленні прэс-службы абласной міліцыі гаворыцца, што 87-гадовы **Адам Рагавец** з адселенай пасля чарнобыльскай аварыі вёскі Белы Бераг "адзінокім не з'яўляецца, бо ў яго ёсць дарослыя дзеці, якія, паводле заканадаўства, абавязаны яго даглядаць". Апрача таго, раённыя ўлады нібыта арганізавалі з дапамогай аўталаўкі забеспячэнне адзінокага пенсіянера прадуктамі харчавання ў пэўныя дні тыдня.

Дваіх мазырскіх валанцёраў ахоўнікі радыяцыйных тэрыторый Нараўлянскага РАУС затрымалі ў Белым Беразе яшчэ 3 лютага.

Як распавёў валанцёр **Яўген,** пра самотнага пенсіянера Адама Рагаўца ён даведаўся праз відэасюжэт у інтэрнэце:

— Вырашыў зрабіць добрую справу — дапамагчы чалавеку. Казалі, што ён нават ветэран вайны. Калі мы з сябрамі прыехалі да яго ўпершыню, то жахнуліся. Харчаваўся Адам Рагавец пераважна сухарамі з кіпенем. Грубка ў яго хаце патрэскалася, электрычнасці няма, газавая пліта не працавала, бо ў балоне даўно скончыўся газ. Мы сабралі харчы, цёплую вопратку, лекі першай неабходнасці, набылі запоўнены газавы балон, інструменты для рамонту грубкі і паехалі. Я з напарнікам выехаў на аўтамашыне хвілін на сорак ранней, і нас затрымалі міліцыянеры. Такі вэрхал пачаўся: заехалі, маўляў, без пропуску на забруджаную радыяцыяй тэрыторыю. Мы спрабавалі тлумачыць, што хочам дапамагчы адзінокаму старому вяскоўцу, але ніхто нас не слухаў".

> Такі вэрхал пачаўся: заехалі, маўляў, без пропуску на забруджаную радыяцыяй тэрыторыю. Мы спрабавалі тлумачыць, што хочам дапамагчы адзінокаму старому вяскоўцу, але ніхто нас не слухаў".

Валанцёраў міліцыянты прымусілі ехаць у Нараўлянскі РАУС, дзе і склалі ў адносінах да іх адміністрацыйны пратакол, згодна з часткай 2 артыкула 16.3 КоАП — парушэнне патрабаванняў рэжыму радыяцыйнай бяспекі ў мясцовасцях, якія падпалі пад радыеактыўнае забруджанне.

Яўген паведаміў, што з міліцыі яны выправіліся назад у Белы Бераг, каб усётакі даставіць Адаму Рагаўцу неабходныя харчы, вопратку і газавы балон для пліты. Заадно падрамантавалі грубу, уцяплілі вокны. Адзінокі стары расказаў, што гармонік, з якім ён ездзіў у Мазыр не столькі зарабіць, колькі паглядзець на людзей, выкралі невядомыя заезжыя рабаўнікі.

Напрыканцы лета 1986 года Белы Бераг выселілі: каго — у веску Скрыгалаў Мазырскага раёна, каго — у Скароднае пад Ельск. Жылі тут 66 сем'яў. Дзеці Адама Рагаўца таксама параскіданы па краіне. Сам ён вярнуўся ў родную вёску дажываць свой век. І зараз жыве, нягледзячы на тое, што Нараўлянскі раённы савет у снежні 2011 года сваім рашэннем № 73 скасаваў Белы Бераг як паселішча. Праўда, адміністрацыя зон адчужэння і адсялення збіраецца назаўсёды выселіць самотнага чарнобыльца з вёскі.

Што да валанцёраў, то пратаколы нараўлянская міліцыя пераслала ў мазырскі суд па месцы іх жыхарства, і цяпер ім пагражае штраф ад 1 да 3 мільёнаў рублёў.



*Вось такая ежа дасталася на скону гадоў*

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 14.02.13
Тыраж 299 экзэмпляраў